**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 48 (764) 27 лістапада 2014 года.**

**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






Шмат хто з маладзейшага пакалення ўжо нават і не падазрае, што качкі – пералётныя птушкі, на зіму, звычайна, зляталоць у вырай. Аднак ужо як тры дзесяцігоддзі качкі стала зімуюць на глыбоцкіх азёрах. Зімы сталі цяплейшымі і карацейшымі! На здымку: возера Кагальнае скавала лёдам, качкі пільнуюць палонку, абы не замерзла. *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Віцебская вобласць

# Праграма пад пагрозай

■ Чэслаў Якубовіч.

**З вялікімі намаганнямі пад жорсткім прэсінгам кіраўніка дзяржавы на Віцебшчыне ў сярэдзіне лета ўдалося здаць навасёлам 13 жылых дамоў з пратэрмінаванымі на паўгода і болей тэрмінамі будаўніцтва.**

Аднак, як аказалася, праблема існуе і даволі сур'ёзная. Ужо ў сярэдзіне кастрычніка зноў з'явіліся яшчэ чатыры незавершаныя шматпавярхоўкі, якія павінны былі прыняць жыхароў. З іх два жылыя дамы аказаліся ў Оршы, дзе работы не маглі закончыць, нягледзячы на высокую ступень гатоўнасці. Паспрабаваў умяшацца ў сітуацыю абласны камітэт Дзяржкантролю, але ж цуды бываюць толькі ў казках. Пад пагрозай невыканання апынулася праграма жыллёвага будаўніцтва на гэты год, паколькі заданні па ўзвядзенні жылля сталі правальваць ужо 16 з 21 раёнаў вобласці. Асабліва трывожна за лёс такіх аб'ектаў у Верхнядзвінскім, Дубровенскім і Шумілінскім раёнах. За кароткі тэрмін будаўнікам заставалася пабудаваць амаль 160 тысяч кв. метраў жылплошчы. А як можна гэта зрабіць, калі да ўзвядзення 6 жылых дамоў практычна не прыступілі ў рэгіёнах. На яшчэ шасці шматпавярхоўках была вельмі нізкая ступень гатоўнасці. Асабліва "вызначыўся" і Талачынскі раён, які ў 2015 годзе прыме чарговыя абласныя "Дажынкі", бо ў гарпасёлку Коханава толькі восенню пачалі падрыхтоўчыя работы па ўзвядзенні фундамента. І нават праца ў некалькі змен, прыцягненне дадатковай працоўнай сілы справу не паправяць. Цёплы, самы спрыяльны перыяд года для будаўніцтва прайшоў, а на месцах не знайшлі нічога лепшага, як сталі прыхарошваць рэальнае становішча спраў.

## Пастаўскі раён

# Вось і казцы канец

■ Кастусь Александровіч

**Справы ў Расіі ідуць настолькі дрэнна, што стагнацыя яе эканомікі ўжо стала рыкашэтам балюча біць і па многіх айчынных вытворцах.**

У ліку такіх у Пастаўскім раёне нечакана апынуўся флагман мясцовай прамысловасці, прыватны мэблевы цэнтр. За апошніх няпоўных чатыры гады ў мадэрнізацыю вытворчасці заснавальнік і дырэктар цэнтра Анатоль Бабічаў уклаў амаль 100 млрд. рублёў. Яго прадпрыемства стала адным з вядучых беларускіх вытворцаў дзвярэй з масіва сасны, дуба, вольхі і бярозы, выпускае зараз больш 35 мадэляў дзвярных блокаў. Аднак сёлета рэзка, амаль напалову абваліўся расійскі рубль і імгненна "прасеў" адзін з важнейшых рынкаў збыту па доўгатэрміновых кантрактах для ПМЦ. У выніку тут прыйшлося ліквідаваць адну з лепшых у Беларусі футбольных акадэмій. Дзве юнацкія каманды з-за фінансавых праблем зняліся з розыгрышу чэмпіянату краіны ў вышэйшай лізе, без працы засталіся 5 кваліфікаваных трэнераў, абслугоўваючы персанал акадэміі, у якой займалася больш 150 хлопцаў розных узростаў. Аднак ліквідацыя такой установы еўрапейскага ўзроўню – гэта яшчэ паўбяды. Два гады назад на ПМЦ працавала больш тысячы чалавек, сёлета колькасць працуючых зменшылася да васьмісот. Але з-за няпростай эканамічнай сітуацыі тут ужо пачынаюцца масавыя скарачэнні персаналу, а знайсці працу ў райцэнтры, дзе ліквідавалі некалькі прадпрыемстваў і арганізацый, воінскую часць пагранвойск, стала яшчэ цяжэй.

## Полацкі раён

# Яшчэ адзін доўгабуд

■ Станіслаў Раманчук.

**З-за складанай сітуацыі ў беларускай эканоміцы ўжо па краіне адчувальна зменшыліся аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва і не толькі.**

Увогуле прыйшлося ўвесці рэжым строгай эканоміі сродкаў, ад вельмі многіх запланаваных аб'ектаў адмовіцца. Вось і ў Полацкім раёне такі гаротны лёс напаткаў пачаты Палац гульнявых відаў спорту. Патрэбная арэна і для суседняга Наваполацка павінна была з'явіцца ў вельмі прыгожай мясцовасці ў адным з новых мікрараёнаў горада, дзе ў мінулым размяшчаўся мясцовы аэрапорт. Аднак яшчэ два гады назад адсюль сышлі будаўнікі. Як аказалася, усе праблемы пачаліся з элементарнага: недахопу грошай. Першапачатковая задума спадабалася ўсім, бо акрамя ўніверсальнай глядзельнай залы ў Палацы павінна была з'явіцца гасцініца для спартсменаў, розныя трэнажорныя залы, трэніровачныя палі і нават кафэ з падземным паркінгам. На практыцы аднак не разлічылі, адкуль возьмуцца 700 млрд. рублёў на такі значны аб'ект. Пайшлі на змяншэнне расходаў на будоўлю, але і гэта не прынесла эфекту. Да таго ж пазней аб'ядналі горад Полацк з раёнам у адну адміністрацыйную адзінку, ліквідавалі гарвыканкам. Цяпер ужо і не адшукаць, хто быў датычны да расходавання грошай упустую. Адзін толькі праект каштаваў бюджэту 6 млрд. рублёў. Яшчэ 3 мільярды патрацілі на пачатак будаўніцтва, пабудову пад'язных дарог да аб'екта, якія цяпер ужо зараслі хмызняком. У чыстым полі стаяць сіратліва забітыя на глыбіню дзя01сяткі жалезабетонных слупоў, як сведчанне айчыннага марнатраўства. Сумна, што няма ў нас сапраўднага мясцовага самакіравання і такіх кінутых будоўляў нямала і ў іншых месцах.

# Аб самым надзённым

## ДАЛЕЙШЫ РОСТ ЦЭН ЗАХАВАЕЦЦА Ў БЕЛАРУСІ НАВАТ У ПЕРАДВЫБАРНЫ ГОД



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Ужо практычна ўсім беларусам відавочна, што грошай у дзяржбюджэце мала і нават у перадвыбарны год ураду прыйдзецца ажыццяўляць непапулярныя меры. З ліку такіх павышэнне з цяперашніх 12 % да 13 % стаўкі падаходнага падатку для падтрымкі шматдзетных сем'яў за кошт астатняга грамадства.**

Што сітуацыя ў нашай краіне ўслед за саюзніцай, сур'ёзна "прасеўшай" Расіяй даволі трывожная, ужо не хаваюць і беларускія ўлады. Вось і айчынны даўні лідар А. Лукашэнка днямі падчас нарады аб мерах дзяржаўнай падтрымкі арганізацый фізічнай культуры і спорту зноў публічна прызнаў, што зараз Беларусь жыве ў "вельмі няпростых умовах". І гэта, сапраўды, так. Да прыкладу, калі яшчэ год назад толькі кожнае дзясятае наша прамысловае прадпрыемства было стратным, то сёлета гараваць сталі ўжо многія. У прыватнасці, колькасць стратных суб'ектаў гаспадарання па Міністэрству прамысловасці РБ вырасла амаль у 7 разоў!

А гэта ж – наш асноўны экспартны патэнцыял, праўда, 60-80 % выпускаемай прадукцыі адгружалі, правільна здагадаліся, на расійскі рынак. А ён зараз на расійскіх прасторах не спраўляецца з цяжкасцямі, узнікшымі з-за імперскай палітыкі Крамля. Як паказаў апошні саміт вядучых 20 дзяржаў свету ў Аўстраліі, маскоўскага палкоўніка ніхто не паважае, з ім нават стаяць і сядзець за адным сталом калегі не жадаюць і ў выніку пакрыўджаны Пуцін датэрмінова пакінуў дамоў, захацеў "паспаць" пасля аказанага "халоднага прыёма" і размяшчэння ў даволі сціплым гатэлі.

Аднак што нам да чужых крыўд, бо даўно было заўважана, што розумам гэту Расею цяжка зразумець. Нам бы са сваімі праблемамі разабрацца. У мінулым годзе беларускія вытворцы мелі 2,5 трыльёны рублёў прыбытку, аднак сёлета дэвальвацыя расійскай валюты прывяла да таго, што па выніках трох кварталаў года ўжо маем страты амаль 1 трлн. Стратнымі сталі нават флагманы беларускай прамысловасці, такія гіганты, як жодзінскі БелАЗ і сталічныя МТЗ з МАЗам. Нават на фінішы года нам не варта чакаць добрых навін.

Па разліках спецыялістаў, уключаючы і расійскіх, да канца снежня сёлета курс долара ў Беларусі можа вырасці да 11200 рублёў. Глава айчыннага Нацбанка Н. Ермакова прызналася, што з-за стабільна высокай інфляцыі прыйшлося на неакрэслены тэрмін адкласці намечаную раней дэнамінацыю. Адзінае, што хоць стаўку рэфінансавання да канца 2014 года вырашылі захаваць на ўзроўні 20 %. Мы, у адрозненне ад папярэдніх гадоў, ужо не можам сабе дазволіць жыць раскошна, будаваць шматлікія хакейныя Палацы і рэалізоўваць іншыя амбіцыйныя аб'екты.

Эканамічны рост Беларусі яўна замарудзіўся, чарговая пяцігодка па-сутнасці ўжо правалена, а ў глыбінцы заробкі ў многіх так і дагэтуль не дацягнулі да "святога" – 500 долараў. Нагадаем, у год апошніх выбараў (2010) замахваліся нават на тысячу долараў, але пра гэту прапанову цяпер маўчаць, бо яна правалілася. Ужо практычна ўсім беларусам відавочна, што грошай у дзяржбюджэце мала і нават у перадвыбарны год ураду прыйдзецца ажыццяўляць непапулярныя меры. З ліку такіх павышэнне з цяперашніх 12 % да 13 % стаўкі падаходнага падатку для падтрымкі шматдзетных сем'яў за кошт астатняга грамадства.

Да таго ж нашай краіне трэба будзе зарабіць не менш 4 млрд. долараў, якія трэба будзе заплаціць на аплату ранейшых даўгоў і крэдытаў. Калі нашы вытворцы церпяць страты, то замест іх дадатковыя даходы ў казну дзяржава пачне браць з нашых кішэнь. З гэтай мэтай у праекце дзяржбюджэту Беларусі на 2015 год запланавана павышэнне акцызаў на паліва, тытунёвыя вырабы і іншыя віды падакцызных тавараў, што вядзе аўтаматычна да росту цэн у будучым годзе. Яшчэ пытанне, ці ўдасца ў перадвыбарны год кампенсаваць павышэннем пенсій, заробкаў бюджэтнікам, іншых сацыяльных выплат чарговы рост інфляцыі па-беларуску.

А вось дадатковых даходаў у бюджэт ад барацьбы з лайдакамі будзе няшмат, хутчэй затраты на гэту кампанію стануць большымі. Невыпадкова А. Лукашэнка ў Магілёве змяніў тон свайго абурэння супраць тых, хто нідзе не працуе. "Дармаедамі" не будуць лічыць тых, хто паехаў на заробкі ў Расію. Змагацца стануць з тымі, хто сатрасае грошы са сваіх старэнькіх бацькоў і сваякоў, альбо выпрошвае якую тысячу ля магазіна. Аднак карысці ад такіх апусціўшыхся людзей будзе няшмат, хоць і з імі трэба нешта рабіць.

Увогуле якую сферу жыцця ні вазьмі, цяжкасцей і праблем усюды хапае. Вось многія, асабліва наша моладзь, імкнецца асесці ў сталіцы. Аднак там якія перспектывы хоць бы атрымання жылля? У чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаіць 235 тысяч сем'яў пасля апошніх зверак і змен у жыллёвым заканадаўстве. На адну арэндную кватэру прэтэндуе ўжо да 400 чалавек, конкурс неверагодна высокі. Тым часам Дзяржкантроль выявіў шмат пустуючага пабудаванага жылля ў беларускіх аграгарадках, аднак рашаюцца застацца жыць і працаваць на вёсцы нямногія суайчыннікі…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 27.11.14 | | | | Пятніца 28.11.14 | | | | Субота 29.11.14 | | | | Нядзеля 30.11.14 | | | | Пн.01.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -5 | -4 | -3 | -4 | -6 | -7 | -4 | -8 | -9 | -8 | -4 | -7 | -7 | -6 | -4 | -6 | -7 | -6 | -5 |
| Ціск | 757 | 757 | 756 | 758 | 758 | 758 | 758 | 760 | 761 | 761 | 760 | 761 | 760 | 761 | 759 | 761 | 760 | 760 | 758 |
| Вільготнасць | 78 | 77 | 70 | 77 | 82 | 88 | 58 | 80 | 85 | 91 | 72 | 85 | 82 | 80 | 65 | 75 | 73 | 80 | 71 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 1 Пд-У | 1 Пд-У | 1 Пд-У | 1 Пн-У | 1 Пн-У | 1 Пн-У | 1 Пн-У | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 2 Пн | 1 Пн | 0 ШТЛ | 1 Пд-З |

## Дзень за днём

**З-за абвалу расійскага рубля Беларусь страціла яшчэ 160 мільёнаў долараў. Напрыканцы года беларусы сталі болей купляць валюты, чым прадаваць. Сусветныя цэны на нафту ўпалі да пяцігадовага мінімуму. Чарговыя прэзідэнцкія выбары, найбольш верагодна праз год 15 лістапада, абыдуцца дзяржбюджэту ў 100 млрд. рублёў, стануць танней папярэдніх. Зноў загаварылі аб адмене выбараў сельскіх і пасялковых Саветаў. Масава знасіць прыватны жылы сектар у Мінску перадумалі, буферную зону вакол свінакомплексаў скарацілі ў 10 разоў да 0,5 кіламетра, каб людзі зноў пачалі гадаваць свіней.**

# Важнейшыя навіны свету

**Б е л ь г і я .** Галоўнакамандуючы сіламі НАТА ў Еўропе Філіп Брыдлаў услед за АБСЕ пацвердзіў, што ёсць дадзеныя аб уводзе новай расійскай ваеннай тэхнікі ва Украіну.

**Германія.** Упершыню ў гісторыі модуль апарата "Філа" Еўрапейскага касмічнага агенцтва прызямліўся на аддаленую камету праз 10 гадоў палёту, выйшаў на кантакт.

**Украіна.** Украінская кампанія "Матор Січ" поўнасцю спыніла пастаўкі ў Расію малапамерных газатурбінных рухавікоў для крылатых ракет з-за абстаноўкі ў Данбасе.

**Расія.** Былы віцэ-прэм'ер урада РФ А. Кох папярэдзіў, што рускіх чакае вялікае гора – вайна з вялізнай крывёй, альбо новая ўнутраная разня і кроў хутка пачне ліцца.

**Літва.** Глава МЗС краіны Лінас Лінкявічус абвінаваціў Пуціна ў безадказнасці і распальванні напружання ў свеце, свет павінен паставіць рускіх на месца.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Дэвід Кемеран пагразіў Расіі пашырыць санкцыі, калі Крэмль прадоўжыць пагаршаць сітуацыю на ўсходзе Украіны, падтрымліваць сепаратыстаў.

**ЗША.** Эксперты інвестыцыйнага банка JP Morgan Chase дапусцілі, што ў пачатку 2015 года сусветныя цэны на нафту могуць знізіцца да 65 $ за барэль, гэта ўдар па Расіі.

**Арменія.** Зноў сур'ёзна абвастрыліся адносіны краіны з суседнім Азербайджанам пасля збіцця іх войскамі на граніцы армянскага баявога верталёта Мі-24 з трыма пілотамі.

**Галандыя.** Следчыя краіны дамовіліся з калегамі з Малайзіі і Аўстраліі прадоўжыць яшчэ на 9 месяцаў высвятленне абставінаў гібелі пасажырскага Боінга пад Данецкам.

**Расія.** Пасля ўведзенага Пуціным эмбарга, як пацвердзіла газета РБК, расійскі рынак на трэць пазбавіўся мяса і малака, напалову - рыбы, цэны на ежу выраслі, яе стала не хапаць.

**Латвія.** На аднаўленай вытворчай базе Рыжскага вагонабудаўнічага завода ў Даўгаўпілсе праз 20 гадоў зноў пачалі выпускаць пакуль грузавыя чыгуначныя вагоны.

**Індыя.** Падчас масавай стэрылізацыі пасля бясплатных аперацый па абмежаванні нараджальнасці ў горадзе Біласпур загінулі 16 і яшчэ 30 жанчын моцна захварэлі.

**Швейцарыя.** На аўкцыёне Sotheby's у Жэневе прадалі за 21,3 мільёна долараў невядомаму самы дарагі ў свеце кішэнны гадзіннік з чыстага золата тысячнай 24 караты і вагой 500 грам.

**Германія.** Падчас спрэчкі другі канцэртмайстар Бетховенскага аркестра ў Бонне расійскі віаланчаліст Сяргей Курачкін задушыў жонку Кейт дэ Марке, з боку іх шлюб выглядаў ідэальным.

**Грэцыя.** На поўначы краіны археолагі знайшлі ў шыкоўнай грабніцы часоў Аляксандра Македонскага шкілет пахаванага прадстаўніка знаці, які вельмі добра захаваўся.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Да выбараў 2015 года А. Лукашэнка, як заявіў палітолаг Валерый Карбалевіч, наўрад ці стане мяняць урад М. Мясніковіча, бо гэта рашэнне ўстрывожыць народ.

**Магілёў.** Глава вобласці звольніў адразу трох гендырэктараў буйных прадпрыемстваў: металургічнага завода, "Бабруйсксельмаша" і шклоўскай папяровай фабрыкі "Спартак".

**Жабінка.** Да канца года павінны пабудаваць новы свінакомплекс мясцовага камбікормавага завода, яшчэ 7 здадуць у эксплуатацыю ў іншых кутках краіны.

**Барысаў.** Міліцыя затрымала чатырох маладых хлопцаў, якія займаліся пастаўкамі наркотыкаў у рэгіён, у іх канфіскавалі спайсу ў схованках на 1,8 мільёна долараў.

**Мінск.** Новы старшыня камітэта Дзяржкантролю РБ Л. Анфімаў публічна параўнаў айчынную банкаўскую сістэму з сумна вядомай расійскай фінансавай пірамідай МММ.

**Калодзішчы.** Галоўная тэлерадыёперадаючая станцыя краіны стане апошняй у Беларусі, дзе 15 мая 2015 года поўнасцю завяршыцца адключэнне аналавага тэлевяшчання.

**Мінск.** Ужо вясной 2015 года, як запэўніў пасол Польшчы ў РБ Лешак Шарэпка, у кожным абласным цэнтры і ў Пінску з Лідай запрацуюць польскія візавыя цэнтры.

**Брэст.** Пасля ўказанняў са сталіцы мытнікі ўзмацнілі на граніцы нагляд на пунктах афармлення, у аўто брэстчаніна знайшлі 46 кг схаванага мяса, увезенага з Польшчы.

**Мінск.** З-за ўспышкі афрыканскай чумы свіней, як пацвердзілі ва ўрадзе Беларусі, пагалоўе свіней у краіне скарацілася на 18 %, а на Віцебшчыне – напалову.

**Гродна.** Раніцай на ўчастку аўтатрасы паміж Мастамі і Дзятлавым згарэў рэйсавы маршрутны аўтобус, які рухаўся з абласнога цэнтра да Навагрудка, 10 пасажыраў не пацярпелі.

**Мінск.** Экс-міністр працы Беларусі А. Сасноў пацвердзіў, што А. Лукашэнка ведаў пры прызначэнні С. Маскевіча міністрам адукацыі, што яго дарослы сын працуе ў ЗША.

**Бабруйск.** За гады незалежнасці ў горадзе знеслі, як пацвердзіў культуролаг Д. Кудзінаў, 15 помнікаў Леніну, але засталося 9 штук, сама ж Беларусь страціла яго 200 манументаў.

**Мінск.** Меней двух месяцаў адпрацаваў са зборнай Беларусі па хакеі расійскі спецыяліст У. Крыкуноў і пакінуў пасаду галоўнага трэнера, вярнуўся ў "Нафтахімік" (Ніжнекамск).

**Гродна.** Аператыўнікі падлавілі 15-гадовую школьніцу на прастытуцыі, кліентаў сабе яна шукала ў сацыяльных сетках пад выдуманым імем і прыкрывалася дарослымі фота.

**Барысаў.** Нават вядучыя расійскія спецыялісты абурыліся хамскім звальненнем экс-настаўніка БАТЭ В. Ганчарэнкі з пасады галоўнага трэнера ФК "Кубань" (Краснадар).

## У бліжэйшыя гады з'явяцца электронныя медыцынскія карткі і электронны рэцэпт



■ Алена Спасюк, БелаПАН

**У бліжэйшыя гады ў Беларусі з'явяцца электронныя медыцынскія карткі і электронны рэцэпт, паведаміла намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення арганізацыі медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Людміла Жылевіч.**

Гэтыя мерапрыемствы з'яўляюцца часткай стварэння адзінай электроннай сістэмы аховы здароўя краіны. У многіх паліклініках ужо створаныя, у іншых ствараюцца электронныя амбулаторныя карты гісторыі хваробы пацыента. Іх дублікаты на папяровых носьбітах з мэтай бяспекі пакуль застануцца. Увядзенне электроннага рэцэпту «ўпіраецца ў праблему ўвядзення адзінай электроннай карткі, адзінай базы і сістэмы абароны інфармацыі», адзначыла спецыяліст.

Электронная медыцынская карта стане часткай адзінай карткі грамадзяніна, якая будзе складацца з медыцынскай інфармацыі, растлумачыў намеснік генеральнага дырэктара па навуковай працы Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі НАНБ Уладзімір Лапіцкі.

Паводле яго слоў, плануецца, што на працягу 2015 года ў краіне ў поўнай меры пачне дзейнічаць электронны подпіс. У сістэме аховы здароўя гэта дазволіць надаць юрыдычную сілу электроннаму дакументу і будзе спрыяць электроннаму дакументаабароту паміж установамі аховы здароўя.

Па стане на 1 ліпеня 2014 года ў цэлым у Беларусі 78,2% устаноў аховы здароўя абсталяваны камп'ютарамі і маюць лакальныя вылічальныя сеткі. З улікам таго, што поўная інфарматызацыя паліклінікі патрабуе значных фінансавых расходаў, у першую чаргу ствараюцца такія ключавыя падсістэмы і аўтаматызаваныя працоўныя месцы, як «Рэгістратура», «Статыстыка», «Дыспансерызацыя» на базе лакальных вылічальных сетак. Гэтымі сістэмамі абсталяваныя ўсе установы аховы здароўя.

Стрымліваюць развіццё электроннай аховы здароўя абмежаваныя фінансавыя магчымасці для набыцця вылічальнай тэхнікі і праграмнага забеспячэння, стварэння лакальных вылічальных сетак ва ўстановах і падключэння да надзейных хуткасных каналаў сувязі. Спецыялісты таксама канстатуюць недахоп кадраў па інфармацыйных тэхналогіях у арганізацыях аховы здароўя, здольных на належным узроўні займацца пытаннямі ўкаранення і забеспячэння функцыянавання аўтаматызаваных інфармацыйных сістэм.

Людміла Жылевіч адзначыла, што часта адсутнічае належная матывацыя ў дачыненні да правядзення інфарматызацыі ўстановы як на ўзроўні кіраўніка ўстановы, так і на ўзроўні выканаўцаў. Праблемнымі з'яўляюцца і пытанні інфармацыйнай бяспекі, адзначыла Жылевіч.

Так, у інфармацыйных сістэмах арганізацый аховы здароўя апрацоўваецца персанальная інфармацыя, якая адносіцца да інфармацыі абмежаванага распаўсюджвання. Аднак у ахове здароўя ёсць толькі дзве інфармацыйныя сістэмы, якія атрымалі атэстат па інфармацыйнай бяспецы: інфармацыйная сістэма РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі і рэспубліканская інфармацыйна-аналітычная сістэма па медэкспертызе і рэабілітацыі інвалідаў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Дуброўна.** Новым старшынёй абласнога Камітэта дзяржкантролю стаў 51-гадовы ўраджэнец раёна, эканаміст і юрыст па адукацыі Вадзім Заранкін.

**Наваполацк.** У параўнанні з летам, на 10 % знізіліся заробкі ў работнікаў ААТ "Вымяральнік", падзенне восеньскіх зарплат адзначана ў вобласці і ў цэлым па Беларусі.

**Мазолава.** На новай сучаснай ферме мясцовага сельгасфіліяла РУП "Віцебскаблгаз" з'явіўся і робат-кормараздатчык, працэс кармлення кароў стаў цалкам аўтаматызаваным.

**Віцебск.** У лясным масіве паблізу горада побач з аўтадарогай Р-115 ля вёсак Хайсы і Дрэкольле знайшлі магчымае месца расстрэлаў ахвяр сталінскіх рэпрэсій перад вайной.

**Наваполацк.** За зроблены для прызыўніка за 400 долараў фальшывы рэнтгенаўскі здымак і парады, як "адкасіць" ад арміі, мясцовы доктар можа сесці на 3 гады ў турму.

**Полацк.** На ААТ "Полацк-Шкловалакно" запусцілі новы ўчастак па выпуску да 6 тысяч тон у год канструкцыйнага шкломата з рубленага валакна, раней завозілі яго з ЕС і Кітая.

**Віцебск.** На плошчы Перамогі прайшла ўрачыстая цырымонія развітання з арміяй амаль 400 салдат, якія закончылі службу ў 103-й мабільнай брыгадзе сіл спецаперацый.

**Руба.** Днём у 4-павярховым будынку інтэрната філіяла аўтапарка № 2 у гарпасёлку адбыўся пажар, выратавальнікі эвакуіравалі 16 чалавек, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Чашнікі.** У суд раёна паступіла справа ў адносінах трох падлеткаў з добранадзейных сем'яў з Наваполацка, якіх абвінавачваюць у спробе ўгона аўтамабіляў, крадзяжы мапеда.

**Віцебск.** Па заказу гіпермаркета "Еўраопт" у новым жылым мікрараёне Білёва пабудавалі для зручнасці пакупнікоў першы надземны пераход праз шырокі тут Маскоўскі праспект.

**Лепель.** Суд пакараў 2,5 гадамі турмы маладога будаўніка, які каб адпомсціць за нізкія заробкі свайму начальніку, падпаліў на падпітку рабочую бытоўку, сам ледзь не згарэў.

**Сянно.** Няпрошаны госць з лесу мядзведзь пабываў у вёсцы Грузды і з 40 вулляў мясцовага пчалавода Віктара Сапранецкага пашкодзіў дзесяць, загінулі і пчолы.

**Орша.** Падчас распальвання газавай пліты на целе 63-гадовай пенсіянеркі загарэлася адзенне.

У бальніцу даставілі 5 чалавек, якія ноччу на аўто зляцелі ў кювет ля ракі.

**Наваполацк.** Пасля рэканструкцыі ў новым корпусе гарбальніцы ў межаваным афтальмалагічным аддзяленні сталі праводзіць аперацыі, як раней - толькі ў Мінску.

**Віцебск.** У мясцовым заапарку на ўскраіне горада ў сям'і яванскіх абезьян макак з'явілася папаўненне – дачка, яе стала карміць маці малаком да дасягнення 14-18 месяцаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# “Толькі не было б вайны”



Міхаіл Лонскі.

**Мінула ўжо семдзясят два гады з той пары, калі падчас карнай аперацыі “Нюрнберг” былі знішчаныя разам з жыхарамі больш за дзесяць вёсак Шаркоўшчынскага раёна.**

**■ Зміцер Лупач**

З кожным годам усё менш застаецца жывых сведкаў тых страшных падзей. Нам удалося паразмаўляць з тымі сведкамі гэтых падзей, хто ў час вайны быў у дзіцячым узросце. Ім пашчасціла выжыць, але іх дзяцінства назаўсёды забрала вайна.

Як вядома, вайна для жыхароў Заходняй Беларусі пачалася 1 верасня 1939 года, калі гітлераўская Германія напала на Польшчу, бо нашы землі ўваходзілі тады ў склад польскай дзяржавы. Некаторыя з нашых землякоў паспелі патрапіць на заходні фронт.

Калі польскія войскі змагаліся з нямецкімі агрэсарамі, з усходу на тэрыторыю Польшчы напаў Савецкі Саюз. Савецкія гісторыкі называць гэты напад вызваленчым паходам Чырвонай Арміі. Не маючы сілаў змагацца на два франты, польскія войскі капітулявалі. Агрэсары адзначылі перамогу сумесным парадам у Брэсце, які адбыўся 22 верасня 1939 года.

Так землі Заходняй Беларусі патрапілі ў склад Савецкага Саюза. Пазней жыхары заходняй Беларусі назавуць гэты перыяд першымі Саветамі. Новая ўлада прабыла на нашых землях нядоўга, бо не прайшло і двух гадоў, як былыя хаўрусьнікі сышліся ў смяротнай бітве паміж сабой. 22 чэрвеня 1941 года гітлераўская Германія распачала вайну супраць Савецкага Саюза. На нашых землях у чарговы раз змянілася ўлада, на гэты раз тут сталі гаспадарыць нямецкія акупанты, якія занялі нашу мясцовасць у пачатку ліпеня 1941 года.

Трэба адзначыць, што чарговую змену ўлады насельніцтва заходняй Беларусі сустрэла ў сваёй большасці неварожа, былі выпадкі, калі акупантаў сустракалі нават з кветкамі. Немцаў разглядалі як вызваліцеляў ад бальшавікоў, якія за няпоўныя два гады паспелі прычыніць мясцоваму насельніцтву шмат шкоды.

Але паступова адносіны насельніцтва да новых гаспадароў мяняюцца. Гэтаму спрыялі сваімі дзеяннямі як немцы, так і партызаны, колькасць якіх да канца 1942 года значна ўзрасла. У некаторых месцах яны кантралявалі значныя тэрыторыі. Так было і ў раёне казянскіх лясоў, дзе дзейнічала некалькі партызанскіх атрадаў.

Нямецкае камандаванне стала праводзіць супраць партызан карныя аперацыі, адной першых стала аперацыя “Нюрнберг”, якая праводзілася ў лістападзе 1942 года. Вядома, падчас такіх аперацый знішчыць партызан было немагчыма, але акупанты ставілі яшчэ і іншую мэту – стварыць у партызанскай зоне мёртвую пустыню, каб пазбавіць партызан падтрымкі людской сілай і харчаваннем з боку мясцовага насельніцтва.

Трэба адзначыць, што і ў кіраўніцтве акупантаў не было адзінага меркавання наконт слушнасці правядзення такіх карных аперацый. Партызаны звычайна адыходзілі, а цярпела мясцовае насельніцтва. Так было і падчас аперацыі “Нюрнберг”, кіраваў якой Экельн.

Як піша гісторык Юры Туронак, гаўляйтэр Беларусі Кубэ высмейваў Экельна, які лічыў гэтую аперацыю за вялікае дасягненне ў барацьбе з партызанскай пагрозай... Забойства нявінных людзей падымала аператыўныя паказчыкі СС, затое падрывала палітыку Кубэ, скіраваную на здабыццё прыхільнасці тутэйшага насельніцтва.

Ніжэй мы прыводзім успаміны пра тыя страшныя падзеі жыхароў Шаркоўшчынскага раёна.

***Фецінія Вайцяховіч,*** якая зараз жыве ў Шаркоўшчыне, добра памятае той дзень:

*- Мне ўжо дзесяць год было, як гэта ўсё палілі. Гэта было ў 1942 годзе, 28 лістапада. Былі Запусты, раніца. А прыйшоў сусед і кажа на бацьку, што немцы да нас ідуць. А з другой вёскі скрозь ідуць немцы...*

*І вось сталі яны збіраць мужчын у сярэдзіну вёскі, у хату, на сход. А мы засталіся дома: я, маці, і брат з сястрой.*

*І вось у нас відаць усё ў акне было: іх сталі выклікаць і страляць. А яны не пайшлі з хаты. Яны тады ўкінулі гранату ў хату. А бацька мой у польскай арміі служыў і ведаў, што гранату можна паспець выкінуць назад. Вось ён і выкінуў.*

*Як немцы гэта ўбачылі, яны падпалілі гэты дом. Як дом загарэўся, некалькі чалавек выскачылі і пабеглі, хто куды. Ён з братам ускочыў у калодзеж і сусед, Міхаіла Лонскага з Буеўшчыны бацька.*

*Брат яго ўтапіўся тады ў калодзежы, бацьку Лонскага забілі, а ён пасля выскачыў і па дыму змог уцячы. Так яму ўдалося выжыць.*

Пра гэты выпадак распавядае і сам ***Міхаіл Лонскі,*** жыхар вёскі Буеўшчына:

*- Я жыў у Кушталях з бацькам, з маці, з сястрой. Прыйшлі немцы да нашай хаты проста. Бацька мой кавалём быў. Прыйшлі і забралі бацьку з хаты і павялі, я ззаду, а мяне не пусцілі. Я застаўся стаяць каля сцяны, а яны павялі яго ў сярэдзіну вёскі, у хату, і там сабралі ўсіх з вёскі мужчын.*

*А праз некаторы час чуем: пах..., пах..., выстралы...*

*Мужчыны ж, пачуўшы выстралы, засунуліся ў хаце і не пускаюць. Тады немцы ўкінулі ў хату гранату. А адзін, Толік звацца, разбіраўся ў гэтай справе і выкінуў гэту гранату назад. Немцы тады запалілі хату.*

*Аж да вечара гэта перастрэлка ішла, хто выйдзе з гэтага дыму, так адразу і страляюць. Аж пад вечар немцы паказваюць: уцякайце. Сабраўся з маці, сястра была - шосты годзік, укруцілі яе ў пасцілку, вынеслі на двор, а ўжо трохі снегу выпала, марозік быў, на пасцілку пасадзілі, вуглы звязалі і цягнем аж за вёску.*

*А пасля сказалі, што ўжо можна мужчынам ісці разбіраць, дзе хто ёсць. Я сам хадзіў, бацьку знайшоў, дзе ён ляжаў.*

*Ён адзеўшыся быў, а як палілі ўжо, відаць, горача было, гразь адтаяла, дык ён гэтай граззю вымазваўся, каб не згарэць. А немец заўважыў гэта і каля калодзежа застрэліў. А ў калодзежы сядзеў сусед і бачыў гэта. Ён апусціўся ў калодзеж, закрыўся крышкай і вытрымаў увесь гэты час, хоць і холадна было.*

***Ганна Казюронак,*** былая жыхарка вёскі Трабаўшчына, не можа схаваць слёз:

*- Браціка маладога забілі, яго ў армію не бралі, ён не трэба быў ні тым, ні тым... Ён у дзяцінстве руку быў зламаў... І маму забілі, яна зусім маладая была...*

Працягвае ***Фецінія Вайцяховіч:***

*- А гэтыя трупы, што бітыя, спаленыя былі,- усе яны там так і ляжалі.*

*А ўжо чацвёртага снежня ўжо звожвалі іх на могілкі ў Шыцях, там выкапалі вялікую яму і ўсіх у адну яму зляжылі. Хто быў трохі згарэлы, хто больш, а ад некаторых толькі косці засталіся. І ўсіх там разам пахавалі.*

31 кастрычніка гэтага года на могілках у Шыцях адбыўся жалобны мітынг у памяць тых падзей. Пра гэта мы ўжо распавядалі на старонках ВГ.

Вядома карнікам не ўдалося знішчыць партызан у казянскіх лясах, але каб пазбавіць народных мсіўцаў з боку мясцовага насельніцтва, яны вырашылі стварыць у партызанскай зоне мёртвую пустыню.

Распавядае яшчэ адзін сведка тых падзей ***Уладзімір Мілянцей***:

*- Цэнтр барацьбы з партызанамі знаходзіўся тады ў Глыбокім, кіраваў ім нямецкі кат генерал Экельн. Сам ён дадумаўся ці Гебельс, Гімлер яму падказалі, але задумка была такая, што на мяжы Беларусі з Прыбалтыкай трэба было стварыць такую мёртвую зону, буферную, каб партызанішчына не пранікла далей у Еўропу.*

Аперацыя “Нюрнберг” была адной з першых масштабных акцый у рэгіёне, але далёка не апошняй. Вёскі палілі і ў сорак трэцім годзе, і ў сорак чацвёртым.

Распавядае жыхарка вёскі Буеўшчына ***Вера Курэц***:

*- У першую экспедыцыю татку забілі, а ў другую і зусім з вёскі выгналі.*

*Мы жылі ў Свілах, у 1942 годзе падпалілі вёскі вакол нас, а наша вёска засталася. Тут стаяў карацельны атрад, такая іх база. А ў сорак трэцім спалілі ўжо і нас.*

Далей жанчына распавядае пра смерць свайго бацькі:

*Знайшлі такое месца за хлевам, каля ўборнай. 25 чалавек вывелі - і там... Цэлая гурба людзей.*

*Бабуля кажа, што вашага татку забілі. Ну, мы ж пойдзем глядзець. Зайшлі, паглядзелі, але нас прагналі. Там цэлая гурба, а татка чуць не навярху. Я як спужалася, дык і не памятаю, як іх і хавалі.*

Цяжка было тым, хто выжыў і пасля вайны. Трэба было адбудоўваць дамы, працаваць, каб пракарміцца. Дзяржава тады нічым асабліва дапамагчы не магла.

Успамінае жыхар вёскі Ёды ***Васілій Пушкароў***.

*- Лета жылі ў саломенай будцы, прыйшлося нам, дзецям, араць на кані. Пасля будкі змайстравалі ўжо сабе да зімы зямлянку. Брат старэйшы дрэвы асінавыя пашчапаў, зямлянку так абставілі і жылі, пакуль дом пабудавалі.*

*Лес далі ў Стайках, я асабіста вазіў па лядку. Марозік быў, палажу бэлькі тры, а Стайкі далёка былі - кіламетраў дваццаць. Майстар паказаў будаваць дом, брат старэйшы ведаў як рубіць так званы курляндскі вугал, ну і вырубілі дом.*

*Бацька з дзяцькам лес уручную рэзалі на доскі. Вось так і жылі.*

- Успамінае ***Вера Курэц***:

*Пасля вайны дзяржава нам так удзеляла ўвагу. Там, дзе мужчыны былі, яны падабіваліся дапамогі. А мы ніводнай кропелькі, ні іголачкі ад дзяржавы не мелі.*

*Затое мы былі героі: і хату рубілі, і латы часалі, і стрэхі крылі. Тады чалавечка не было на гэту справу. А есці? Што мы елі! Крапіву варылі і густую, і рэдкую...*

*А дзяржава не звяртала ўвагі на такіх, як мы, хто моцна цярпеў.*

Думку працягвае і ***Міхаіл Лонскі***:

*- Вось такія падзеі ў нас адбываліся. І цяпер страшна ўспомніць, усяго калоціць. Восемдзясят гадоў пражыў, усяго было, зараз і жыць ёсць дзе, ды ўжо няма каму...*

Больш як праз сем дзесяцігоддзяў пасля страшнай трагедыі яны сабраліся разам у Ёдскім Доме культуры. Іх успаміны нельга было слухаць без слёз. І тады пачынаеш па сапраўднаму разумець беларускае выслоўе “Толькі не было б вайны”...



Вера Курэц.



Васілій Пушкароў.



Фецінія Вайцяховіч з унукамі.



Ганна Казюронак.



■ Клімяенцій Кожан, краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. м. Германавічы.

# Рэч Паспалітая абодвух народаў

## Да 445-годдзя Люблінскай уніі

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 47 (763) 20 лістапада 2014 года.**

### 3. Вынікі Люблінскай уніі

ВКЛ разам з Польшчай утварылі агульную Рэч Паспалітую, што ў перакладзе з польскай мовы азначае рэспубліка (res – "справа", publica – "агульнанародная" з лацінскай мовы). Такое аб'яднанне дзвюх суседніх краін называецца федэрацыяй – што складаецца з самастойных дзяржаўных утварэнняў, аб'яднаных на пэўных умовах у адзіную краіну. У складзе гэтай шляхецкай шматнацыянальнай дзяржавы ВКЛ існавала ў 1569-1795 гг.

Вынікамі Люблінскай уніі засталася незадаволена большая частка магнатаў ВКЛ, якой трэба было дзяліць палітычную ўладу з польскімі магнатамі. Згодна з уніяй, польская шляхта мела права атрымліваць зямельныя ўладанні ў межах ВКЛ, а шляхта ВКЛ практычна згубіла такое права ў тых раёнах, якія былі далучаны да Польскага каралеўства. Антыпольскія настроі ўвасобіліся ў барацьбе за захаванне дзяржаўнай незалежнасці ВКЛ. У 1581г быў створаны Галоўны трыбунал – вышэйшы судовы орган для ВКЛ. Самай моцнай праявай імкнення да дзяржаўнай незалежнасці стала прыняцце Статута ВКЛ 1588 года – звода законаў, падрыхтаванага камісіяй пад кіраўніцтвам канцлера ВКЛ Льва Сапегі, выдатнага палітычнага і грамадскага дзеяча, прадстаўніка вядомага магнацкага роду. Ён быў удзельнікам Лівонскай вайны, дыпламатам, адным з арганізатараў вышэйшага судовага органа ВКЛ – Галоўнага трыбунала.

Статут 1588 года па сутнасці скасаваў многія пастановы Люблінскай уніі. Ён заканадаўча аформіў захаванне Вялікага Княства Літоўскага як самастойнай дзяржавы ў саюзе з Польшчай. Для абедзвюх дзяржаў заставаліся агульнымі толькі сойм і кароль. У аснову Статута была пакладзена ідэя прававой дзяржавы, у якой улада падзяляецца на заканадаўчую і выканаўчую, якія ўзаемакантралюючыя, і незалежную судовую ўладу, якая падпарадкоўваецца толькі закону. Прадугледжвалася строгае выкананне ўсімі дзяржаўнымі органамі і службовымі асобамі законаў, роўнасць усіх людзей перад законам. Паводле Статута атрымліваць маёнткі, займаць дзяржаўныя і духоўныя пасады ў ВКЛ маглі толькі мясцовыя ўраджэнцы, грамадзяне ВКЛ.

Вынікі Люблінскай уніі выявіліся ў так званай паланізацыі – апалячванні літоўска-жамойцкай шляхты праз далучэнне яе да польскіх шляхецкіх вольнасцей. У 1696 годзе шляхце ВКЛ і Польшчы было нададзена права поўнага кантролю за дзейнасцю караля, што значна абмяжоўвала яго ўладу і давала шляхце магчымасць не падпарадкоўвацца каралю, калі ён адмовіцца ад выканання шляхецкіх прывілеяў. У шматнацыянальным ВКЛ з цягам часу сфарміравалася новая супольнасць – народ шляхецкі, які складаўся ў большасці сваёй са шляхты, аб'яднанай адзінымі правамі і прывілеямі, у значнай ступені адзінай рэлігіяй (каталіцтвам), а таксама польскай мовай. У 1696 годзе ўсё афіцыйнае справаводства ў Рэчы Паспалітай было пераведзена на польскую мову, якая набыла статус дзяржаўнай.

Такім чынам, у выніку Люблінскай уніі Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае не спыніла свайго існавання. Яно не было далучана да Польшчы. Дзве суседнія краіны, якія здаўна мелі вопыт сужыцця, аб'ядналіся ў федэрацыю. Была створана агульная Рэч Паспалітая – шляхецкая, шматэтнічная дзяржава, у якой Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае існавала амаль да канца XVIII стагоддзя.

■ Уладзімір Скрабатун

# Падсвілле, якое мы ўжо не ўбачым

У кастрычніку 1924 года ў складзе 3-й Брыгады памежнай аховы, быў сфармаваны 7-ы Памежны батальён. Ён дыслакаваўся ў Падсвіллі. З гэтага часу ў падсвільскім гарнізоне пачынае ўзводзіцца шмат пабудоваў, сярод якіх кашары (казармы), стайні, касцёл, школа, жыллё для афіцэраў. Будынкі ўзводзіліся ў традыцыях народнага дойлідства.

Батальён Корпуса Аховы Памежжа (КАП) "Падсвілле кантраляваў участак польска-савецкай мяжы. Польска-савецкая мяжа праходзіла так, як сёння ёсць раённая мяжа Глыбоцкага раёна з Полацкім і Ушацкім. Уздоўж лініі гэтай мяжы роты і стражніцы 7-га батальёна КАП "Падсвілле" дыслакаваліся наступным чынам –

**1-я рота КАП "Загацце":**

● Стражніца (застава) "Загацце" (маёнтак Загацце, гміна Празарокі);

● Стражніца КАП "Стэльмахова" (фальварак Вялікае Стэльмахова, гм. Празарокі);

● Стражніца Целяшы (калонія Целяшы, гм. Празарокі);

● Стражніца "Карчэмна" (вёска Карчэмна, гм. Празарокі);

**2-я рота КАП "Дзіўнікі"** (калонія Дзіўнікі, гм. Празарокі):

● Стражніца КАП "Ялаўка" (калонія Ялаўка, гм. Празарокі);

● Стражніца КАП "Гарадок" (фальварак Гарадок, гм. Празарокі);

● Стражніца КАП "Асінаўка" (в. Асінаўка, гм. Празарокі);

● Стражніца КАП "Ямпаль" (маёнтак Ямпаль, гм. Празарокі);

**3-я рота "Крыжоўка"** (засценак Крыжоўка, гм. Галубічы):

● Стражніца КАП "Гразі" (в. Гразі, гм. Празарокі);

● Стражніца КАП "Каменны Воз" (каля засценка Каменны Вожык, гм. Галубічы);

● Стражніца КАП "Ліпава" (маёнтак Ліпава, гм. Галубічы);

● Стражніца КАП "Барсучына" (засценак Горнава-4, гм. Галубічы);

● Стражніца КАП Барткевічы (засценак Горнава-1, гм. Галубічы).



Касцёл Сэрца Езуса ў Падсвіллі, 1930-я гг. У 1984-м разабраны на дровы.

У Падсвіллі, на вайсковых могілках, дзе пахаваныя польскія жаўнеры, што загінулі ў 1920-м у бітвах з бальшавікамі, пахаваныя і памежнікі, якія загінулі ад куляў кантрабандыстаў у 1920-30-я гг..

Не мінулі батальён і надзвычайныя здарэнні. У аўторак, 30 снежня 1924 года ў Галубічах (гміна Галубічы) паручнік Караль Уладзіслаў Падроўжак, які часова выконваў абавязкі ад'ютанта, застрэліў камандзіра батальёна маёра Гвіда Бурсу.

Улетку 1927 года батальён быў уключаны ў склад 3-й Паўбрыгады памежнай аховы, якая праз два гады была перайменаваная ў полк Корпуса Аховы Памежжа "Глыбокае" (КОР „Głębokie").

У жніўні 1939 года 7-ы батальён КАП "Падсвілле" ўвайшоў у якасці 2-га батальёна сфармаванага 3-га палка пяхоты КАП. Да 13 верасня 1939 г полк удзельнічаў у баях з немцамі ў раёне Сувалак. 13 верасня 1939 г. полк быў перетранспартаваны на Валынь у раён Роўна-Кастопаль, дзе ён браў удзел у баях супраць савецкіх войскаў. У пятніцу, 21-22 верасня 1939 года недалёка ад вёскі Баровічы ўдзельнічаў у баях супраць Чырвонай Арміі, а 23 верасня 1939 года недалёка ад вёскі Радошын, ваяваў з праўзыходнымі сіламі савецкіх агрэсараў, дзе потым 3-і полк пяхоты КАП капітуляваў.




Падсвілле. Кашары 7 батальёна КАП "Падсвілле" палка КАП "Глыбокае", 1930-я гг. *Архіўны здымак.*

Пасля сыходу з гарнізону 2-га батальёна 3-га палка пяхоты КАП для ўдзелу ў баявых дзеяннях, з яго рэштак, што засталася ў Падсвіллі, а таксама шляхам мабілізацыі рэкрутаў і рэзервістаў паўстаў новы батальён КАП "Падсвілле", які ўвайшоў у склад палка КАП "Глыбокае". 17 верасня 1939 года батальён КАП "Падсвілле" браў удзел у бітвах з Чырвонай Арміяй, якая перайшла польска-савецкую мяжу.

Сярод гэтага трэба адзначыць подзвіг афіцэра батальёна КАП "Падсвілле", камандзіра заставы Каменны Воз – у Галубіцкай пушчы – Паўла Палчынскага. На досвітку 17 верасня 1939 года, калі Чырвоная Армія перайшла дзяржаўную мяжу, ён загадаў памежнікам ісці ў Падсвілле, а сам, узяўшы кулямёт, прыняў няроўны бой з чырвонаармейцамі. Калі верыць мясцовым жыхарам, якія потым хавалі загінулых чырвонаармейцаў, іх лік даходзіў пад 60 чалавек. Павел Палчынскі загінуў...

Парэшткі героя, нядаўна, пры ўладкаванні супрацьпажарнай паласы ў Галубіцкай пушчы, знайшоў жыхар вёскі Хралы Віктар Жаваранак. Парэшткі Паўла Палчынскага былі ўрачыста перапахаваныя 17 верасня 2011 года на глыбоцкіх могілках Копцеўка, побач з магіламі польскіх жаўнераў, што загінулі ў 1920 годзе ў бітвах з бальшавікамі.

Кашары будаваліся па тыпавым праекце і захаваліся да сёння ў некаторых гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі, што знаходзіліся ўздоўж былой польска-савецкай мяжы. Яны ўяўляюць цікавасць для аматараў вайсковай гісторыі, часта наведваюцца турыстамі і экскурсантамі.

Шкада, Падсвілле амаль цалкам згубіла сваю гістарычную разынку! Гады тры таму была знесеная апошняя з пабудоў у колішнім гарнізоне – старая школа. Засталося ў Падсвіллі хіба што 2-3 дамы ў "закапанскім стылі".

**PS.** На YouTube – цікавы фільм **"Варшавский рубеж. Белорусы в Войске Польском".** Сярод персанажаў – глыбачанін Юліян Бартко, колішні польскі памежнік, удзельнік баёў з немцамі пад Млавай у верасні 1939 г.



Агульная панарама пабудоў гарнізона ў Падсвіллі. Кіраўнік работ інжынер-архітэктар Адольф Інатовіч-Любянскі. *Фота Ст. Плятэр-Зіберга.*

# Зімовая рыбалка

**Вось і наступілі першыя доўгачаканыя маразы. На вадаёмах ужо з'явіўся лёд і рыбаловы-аматары з нецярпеннем чакаюць адкрыцця зімовай рыбалкі. Таму супрацоўнікі міжраённай інспекцыі лічаць неабходным нагадаць грамадзянам аб захаванні прыродаахоўнага заканадаўства і асабістай бяспецы на першым лёдзе.**

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Як толькі лёд скоўвае вадаёмы і каля берага можна хадзіць, рыбаловы накіроўваюцца на рыбалку, пры гэтым забываюцца пра ўсе існуючыя правілы рыбалоўства і асабістай бяспекі.

Рыбакі з жэрліцамі дапускаюць перавышэнні дазволенай колькасці жэрліц, жэрліцы не падпісваюць, ажыццяўляюць лоўлю без неабходных дакументаў на вадаёмах, дзе інтэнсіўная лоўля рыбы дазволена, вакол месцаў рыбалкі ўтвараюцца цэлыя горы смецця. Часам складваецца ўражанне, што на рыбалку ходзяць для таго, каб выкінуць з хаты смецце.

Усё гэта разглядаецца як парушэнні і цягне адміністрацыйную адказнасць да 20 базавых велічынь, інспектары ўзмоцняць працу па спыненні выкіду смецця на лёдзе.

Для аматараў пакатацца па вадаёмах на транспартных сродках (квадрацыклы, мапеды, матацыклы, аўтамашыны) хацелася б нагадаць, што такія асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, штрафу ў памеры да 30 базавых велічынь. Перасоўваючыся на тэхніцы па возеры, вы не толькі парушаеце прыродаахоўнае заканадаўства, але і падвяргаеце сваё жыццё і жыцці блізкіх людзей небяспецы.

Ідучы на першы неакрэплы лёд, вазьміце з сабою элементарныя сродкі выратавання, вяроўку з грузам на канцы, дошку, выратавальную камізэльку, зараз прамысловасць выпускае даволі кампактныя і лёгкія камізэлькі. Памятайце аб сваёй асабістай бяспецы.

Хацелася б нагадаць аб правілах бяспекі на паляванні, асабліва на загонным паляванні. Правілы тэхнікі бяспекі на паляванні, на жаль, пісаныя крывёй саміх паляўнічых і іх строгае захаванне - заклад захавання Вашых жыццяў. Не адзін здабыты звер не варты жыцця чалавека. Штогод у краіне з-за парушэння тэхнікі бяспекі на паляванні гінуць дзясяткі паляўнічых, яшчэ больш атрымліваюць раненні.

**Аб ўсіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: «гарачая лінія»: 2-86-70, маб. (МТС): 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**








## МНС інфармуе
**на 25.11.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 978;
Гібель людзей – 105, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 31;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон –768.87 млн. руб.

# Жыццё ў суседзяў

## З журналісцкага блакнота



### Розніца ў часе

**Кожная краіна і людзі, якія ў ёй жывуць, маюць сваё непаўторнае аблічча і лёсы. Вось і суседняя з намі і ў многім нам блізкая па ранейшай сумеснай гісторыі Польшча, здаралася, што надоўга знікала з палітычнай карты свету. Толькі чвэрць стагоддзя назад пасля бурных падзей нашы суседзі вярнулі спрадвечную назву сваёй дзяржавы – Рэч Паспалітая, ранейшы герб у кароне, правялі разнастайныя рэформы і сталі ўплывовай часткай Еўрапейскай садружнасці. Зараз польскі час адрозніваецца ад беларускага на 2 гадзіны, таксама і паўсядзённае жыццё ў палякаў дынамічна змяняецца.**

### З глыбінь душы і сэрца

Нас з заходнімі суседзямі на працягу многіх стагоддзяў аб'ядноўвае многае, найперш тое, што мы хрысціяне і адзіныя ў пытаннях веравызвання і верацярпімасці. У гэтым пераканаўся, калі пабываў там сёлета падчас урачыстасцей Усіх Святых і наступнага Дня задушнага памяці і ўшанавання памерлых продкаў. У Польшчы яшчэ за савецкім часам 1 лістапада быў выхадным днём, але зараз адраджэнне ўсяго духоўнага, узнёслага, вечнага і павагі да свайго роду і дзяржавы набыло там новую вышыню. На гэты час польская паліцыя была пераведзена сёлета на ўзмоцнены варыянт нясення службы і правяла спецыяльную акцыю "Зніч", бо настолькі вялікі быў рух на дарогах.

Мы з сястрой Ядзвігай і яе мужам Мечыславам таксама паехалі раніцай з горада Элк, што ў Вармінска-Мазурскім ваяводстве, за 80 км на могілкі мястэчка Рын, дзе знайшлі свой вечны прытулак два родныя браты маёй мамы. Да прызначанай там апоўдні святой імшы за памерлых заставалася болей гадзіны, але святочна апранутых людзей было ўжо некалькі соцень і людзі з дзецьмі ўсё прыбывалі. Па традыцыі кожны паляк наведвае не толькі пахаванні сваіх родных, але перад гэтым пабывае ля помнікаў сваіх суседзяў, знаёмых, сяброў, адышоўшых у вечнасць. Ля кожнай магілкі мы таксама ўсклалі кветкі, крыху памаліліся, запалілі па некалькі лампадак са свечкамі.

Невыпадкова кажуць, што ў лістападзе ноччу з космасу Польшча асабліва выдзяляецца на кантыненце, бо так шмат там, цэлую актаву, – 8 дзён гарыць сапраўднае мора агеньчыкаў памяці. Да таго ж па ўсёй тэрыторыі суседняй краіны не толькі польскія могілкі, але і шматлікія касцёлы, цэрквы, капліцы і іншыя культавыя збудаванні падсвечваюцца ноччу спецыяльнымі пражэктарамі. Едзеш цёмнай ноччу па польскіх дарогах - і за многія кіламетры здалёк бачны мясцовыя прыгожыя храмы. Таксама вельмі прыгожа свецяцца і могілкі, быццам саграваючы памяць аб мінулым і аб тых, хто назаўжды пакінуў гэты свет.

У той дзень пасля заканчэння жалобнага набажэнства ў Рыне і ўнушальнай працэсіі са свечкамі некалькі тысяч прыхаджан вакол пяці жалобных стацый пад вечар дабраліся да паветовага цэнтра Гіжыцка. Але і там людзей было вельмі шмат, паліцыя рэгулявала рух аўтамабіляў. Усе гэтыя лістападаўскія дні шматлікія польскія тэлеканалы шырока асвятлялі тэму дзён памяці і ўшанавання продкаў. У мясцовых газетах таксама некалькі палос прысвячалася ўспамінам аб земляках, якія памерлі, альбо трагічна загінулі за апошні год.

Польскі прэзідэнт Браніслаў Камароўскі пабываў на адных са старажытных могілак Варшавы, усклаў кветкі на магілы знакамітых дзеячаў краю, паўдзельнічаў у дабрачыннай акцыі па ўшанаванні памяці продкаў. Яе ладзіць польская інтэлігенцыя, і за сабраныя сродкі за апошні год у сталіцы ўдалося адрэстаўрыраваць, аднавіць 1300 старажытных помнікаў. Ужо позна вечарам, а восьмай гадзіне я з роднымі пабываў на цэнтральных вялізных могілках у Элку, але і там не зменшыўся ўнушальны людскі натоўп. Што ўразіла, на алеях было вельмі шмат моладзі і людзі яшчэ ішлі да ўскрайку, дзе размешчаны воінскія пахаванні.

Шчыра кажучы, палякі рускіх недалюбліваюць, але не простых людзей, а крамлёўскае кіраўніцтва. Аднак вось памяць пра загінуўшых тут шматлікіх савецкіх салдат і афіцэраў у Польшчы годна шануюць паўсюдна. Вось і ў Элку ля помніка побач з брацкай воінскай магілай гарэлі некалькі тысяч розных лампадак і было нават горача ад гэтага святу. Шмат там пахавана невядомых чырвонаармейцаў, аднак ніводная такая магіла не была забыта, таксама гарэлі па некалькі знічаў, усё было дагледжана і прыбрана, што робіць гонар нашым суседзям. Палякі таксама дагэтуль шануюць памяць пра свайго памерлага духоўнага лідара, славутага суайчынніка-папу Яна Паўла ІІ.



*Заканчэнне ў наступным нумары*

# Пры пажары на льнозаводзе ў Паставах пацярпела амаль уся прадукцыя

**Агонь успыхнуў на Пастаўскім ільнозаводзе каля поўдня 19 лістапада. Гарэў склад гатовай прадукцыіі, у якім знаходзілася каля 40 тон ільноваланка.**

Пажар тушылі дзве гадзіны. Выратаваць атрымалася 36 тон ільносемя і 10 тон ільноваланка. Агонь знішчыў 10 тон ільноваланка, яшчэ 20 тон пашкоджаныя. У будынку часткова пашкоджана столь, вароты, аконныя праёмы, закураныя сцены.

Магчымая прычына пажару – парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры правядзенні работ па зразанні ўязной брамы. Пацярпелых няма, паведамляе прэс-служба УМНС Віцебскага аблвыканкама.



